# ПРАЦАЎНІК АСЬВЕТЫ

**Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“**

№ 3 20 мая 1928 г. № 3


ЗЬМЕСТ



# Самаадукацыя і экскурсіі.

Агульна прызнаным лічыцца, што адукацыя—вышэйшая форма прыстасаваньня чалавека да жыцьця. Вядома, што гэта прыстасаваньне ня можа прыпыніцца, пакуль чалавек жыве, а адгэтуль выплывае, што ня можа быць і закончанае адукацыі. Чалавек, які думае, што ён досыць адукаваны, што яму няма да чаго больш імкнуцца, з гэтага часу становіцца адсталым, ня выстарчаюча адукаваным. Яспа, калі ня хочаш быць адсталым, то заўсёды патрэбна імкнуцца к набыцьцю новых карысных навыкаў шляхам самаадукацыі. Асабліва неабходна самаадукацыя настаўніку, які па роду свае прафэсіі павінен сачыць за дасягненьнямі навукі як у галіне тэорыі, так і практыкі.

Нельга сказаць, што настаўніцтва ў агульнай масе не папаўняе свае веды індывідуальнай і калектыўнай самаадукацыяй, але досыць часта, дзякуючы няўмелай пастаноўкі яе, некаторыя асобы трацяць надзею на свае сілы і пераходзяць у катэгорыю палітычнага і прафэсыянальнага балота, якое жыцьцём будзе зьнішчана, але пакуль што зьяўляецца шкодным для яго.

Каб зьнішчыць недахопы ў гэтым напрамку, каб пры мінімуме затраты часу і энэргіі атрымаць максымум карысных навыкаў, неабходна справу самаадукацыі праводзіць рацыянальна па мэтадычна абаснованаму шляху. Патрэбна нашым раймэтбюро і РМК працасьветы набыць мэтадычную літаратуру па самаадукацыі для зацікаўленых асоб, і, такім чынам, будзе дадзена ім магчымасьць зразумець: як яны нерацыянальна разьмяркоўвалі свой час, як ня ўмелі карыстацца кнігаю, як не звярачвалі ўвагі на паляпшэньне сваіх ведаў, і як выправіць розныя адмоўныя бакі самаадукацыі і г. д.

Праўда, у нас існуе сыстэма пашыраных пэдсаветаў і раёйённых вытворчых настаўніцкіх канфэрэнцый, якія пры ўмелай пастаноўцы многа даюць, а асабліва менш кваліфікаванаму настаўніку, але і тут патрэбны некаторыя ўдасканаленьні.

На пасяджэньні пашыраных пэдсаветаў павінны часьцей выяжджаць сябры раймэтбюро, а на райканфэрэнцыях пажадана паслухаць ня толькі ў Барысаве, а ў кожным раёйённым цэнтры прафэсароў БДУ ці лепшых пэдагогаў гор. Менску, а «адна гадзінная лекцыя можа даць тое, чаго не дадуць гады работы з кнігамі»,—як кажа праф. Петражыцкі, яна ўзварушыць думку слухача, прыўе яму больш ую ахвоту да самаадукацыі, а часам, вядома пры добрым лектары, пакажа, наколькі ён мала ведае па таму ці іншаму пытаньню.

Пасяджэньні-ж пашыраных пэдсаветаў і райканфэрэнцый бяз новага зьместу і формы зусім абрыдаюць, бо наперад ведаеш, як будуць гаварыць і якія асобы (так званы актыў), а гэта цікава раз, два, ну тры, а далей трэба нешта новае.

Урэшце, зазначу пра самаадукацыі ў летні канікулярны пэрыяд, калі настаўнік больш усяго зможа ўдзяліць увагі гэтаму пытаньню. Побач з гэтым трэба адзначыць, што існуючая думка, быццам у гэты пэрыяд трэба адпачываць, вельмі памылкова, і «няма нічога горшага, калі існуюць перапынкі ў працы, выбітая з звычайнай каляіны воля ніяк ня можа зноў узяцца за работу»,—кажа праф. Самсонаў. Адпачываць тыдні і месяцы здольны толькі гультаі. Трэба ўмець працаваць і адпачываць. Адпачынак павінен быць кароткім, але поўным.

Вандраваньне, паездкі, экскурсіі—павінны адыграць самую вялікую ролю ў канікулярны пэрыяд, бо гэтыя віды самаадукацыі разьвіваюць нашу важнейшую разумовую здольнасьць—рабіць параўнаньні і крытычна думаць. Тут таксама ўдзельнікам трэба падрыхтавацца, каб умець выкарыстаць экскурсіі ў самаадукацыйных мэтах.

Але тут сам настаўнік нічога ня зможа зрабіць, калі Наркамасьветы, ЦП працасьветы і ЦБК Інбелкульту не дапамогуць настаўніцтву, першыя дзьве ўстановы, шляхам выдачы літароў з 100 проц., 75 проц. і 50 проц. скідкаю, а ЦБК Інбелкульту шляхам шырокае ініцыятывы па арганізацыі экскурсійных груп па Беларусі, адпаведнага кіраўніцтва імі і па выпрацоўцы найбольш цікавых маршрутаў.

Я ўпэўнен, што вышэйпералічанымі ўстановамі многа зроблена па гэтай справе, але настаўніцтва чакае канчатковага вырашэньня і шырокага апавяшчэньня пра экскурсіі.

**Макар Чабор.**





# Менш цыркуляраў, больш жывога інструктаваньня.

Быў час, калі прафарганізацыі расцэньвалі сваю працу па ліку рознага роду цыркуляраў. Зараз шмат зроблена ў напрамку скарачэньня папяровай сувязі, але-ж яшчэ падумаўшы можна значна падскараціцца. Па заключэньню некаторых работнікаў М. К. ім у сярэднім штодзённа прыходзіцца траціць каля гадзіны часу на разбор цыркуляраў, а колькі траціцца часу і сродкаў на складаньне, друкаваньне і рассылку іх. Раней гэта хвароба была пераважна акруговых арганізацый, але яна хутка пачынае прышчэпліваццца і нізавым арганізацыям. Р. м. к. пачынае жарыць цыркуляры прафдэлегатам, а апошнія па начальству настаўнікам, шкада, што настаўнікам няма куды далей даць дырэктыву.

Дзякуючы гэтаму, прафдэлегатам прыходзіцца заводзіць цэлыя канцэлярыі. Адзін з Р. М. К. Аршанскай акругі даў прафдэлегатам прыкладнае пералічэньне спраў, якія ён павінен завесьці—каля 8.

Пытаньне аб скарачэньні пісьмовай сувязі і ўзмацненьні жывога інструктаваньня ЦП саюзу Белпрацасьветы паднята своечасова.

Узрост і ўзмацненьне працы нізавых прафарганізацый дае мажлівасьць як ЦП, так і акруговым праўленьням значна скараціць пісьмовае кіраўніцтва. У першую чаргу спыніць рассылку цыркуляраў аб правядзеньні кампаній. Агульны напрамак па гэтаму пытаньню мажліва будзе даваць праз газэты і, галоўным чынам, „старонку асьветніка“ Савецкай Беларусі.

Зусім лішнім лічу рассылку такіх цыркуляраў культаддзелам ЦП саюзу, што практыкуецца яшчэ да гэтага часу.

Трэба адмовіцца ад дасылкі пратаколаў пасяджэньня акр. праўленьня ЦП саюзу і АСПС і наадварот, бо карысьці з гэтага надта мала. Увядзеньне замест гэтага пакваратальных інфармацыйных пісем дасьць значна больш карысьці. Мажліва таксама адмовіцца ад атрыманьня пратаколаў пасяджэньня ўсіх нізавых арганізацый і замяніць іх таксама пакваратальнымі пісьмамі. Ня згодзен з думкай ЦП аб выпрацоўцы асобнай схемы пісьма. Схэма можа толькі абмежаваць пісьмо, улажыць у межы і, такім чынам, можа атрымацца звычайная пакваратальная тэкставая справаздача. Калі яшчэ мажліва гаварыць аб схеме для Р. М. К. то для перапіскі акр. пр. з ЦП бязумоўна яна не патрэбна.

Што-ж датычыцца да пасылкі адбіткаў пратаколаў пасяджэньня акр. пр. Р. м. к., то ад гэтага сорту сувязі пакуль што рана адмаўляцца. Але часта тут ужываецца паралелізм, пастановы зафіксаваныя ў пратаколах перадрукоўваюцца і рассылаюцца нізавым арганізацыям з дабаўленьнем крыху «бэлетрыстыкі». Паколькі пратаколы рассылаюцца Р. М. К., і трэбе спадзявацца, што яны большасьцю чытаюцца, адпадае патрэба рассылаць яшчэ абежнікі па гэтых пытаньнях.

Па Аршанскай акрузе досыць шырока ўжываецца мэтад абмену таварыскімі пісьмамі з працаўнікамі Р.М. К., што дае досыць добрыя вынікі ў напрамку сувязі і кіраўніцтва. Гэта было канстатавана ЦП саюзу пры абглядзе працы нашай арганізацыі. Часта афіцыйны язык перапіскі не дае мажлівасьці даць падрабязговы аналіз працы, а гэта з посьпехам мажліва зрабіць у паўафіцыйных пісьмах.

Агульным недахопам у нашай працы зьўляецца недастатковая пастаноўка справы з праверкай выкананьня дырэктыў і сталага вывучэньня матар'ялаў па праверцы розных галін працы. Часта на мясцох выяўляецца ініцыятыва ў тым ці іншым напрамку, але звычайна праца не даводзіцца да канца, не вывучаецца вопыт. Тут трэба вышэйшым прафарганізацыям дапамагчы зьнішчыць гэты недахоп. Трэба павялічыць выезды прадстаўнікоў акр. праўл. у нізавыя арганізацыі, больш часта склікаць акруговыя нарады адк. сэкратароў Р. М. К. Праўда, тут мы ўпіраемся ў недахоп сродкаў па параграфу разьездаў, але грашовае становішча нашых прафарганізацый з кожным годам паляпшаецца, і пры складаньні каштарысаў трэба будзе павялічыць выдаткі па параграфу разьездаў і скліканьня нарад.

**Міх. Шумейка.**

*Ворша.*

# Вынікі калектыўна-дагаворнае кампаніі па саюзу працаўнікоў асьветы.

(*Аршаншчына*).

Кампанія па заключэньню калумоў на працаўнікоў асьветы Аршанскае акругі зацягнулася, дзякуючы позьняму атрыманьню зацьверджаных каштарысаў РВК. Гэта акалічнасьць вельмі няспрыяюча адбілася на згодзе старшынь райвыканкомаў падпісаць калектыўную умову, а тут якраз падасьпелі кампаніі: па выкачваньню сельгаспадатку, распаўсюджваньню сялянскае пазыкі, і гэта дало мажлівасьць тым, хто не жадаў своечасова падпісаць, укрыцца і адцягнуць падпісаньне ўмовы надалей. Да 20-га студзеня без асобных спрэчак падпісаны калумовы на працаўнікоў асьветы Багушэўскага, Крупскага, Расьнянскага раёнаў, па Талочынскаму, Лядпянскаму, Дубровенскаму, Аршанскаму, Кохапаўскаму, Круглянскаму раёнах праведзены былі канфлікты па калумове праз акруговую прым. камеру. У самыя апошнія часы падпісаны калумовы па Дубровенскаму, Капыскаму і Дрыбінскаму РМК. Разгляд канфліктаў у прымкамэры, таксама дзякуючы розным кампаніям, адцягваўся, бо занятыя ў раёнах прадстаўнікі РВК не акуратна зьяўляліся ў прымкамэры на разбор канфліктаў. Праэкт калумовы, які быў распрацаван ЦП Белпрацасьветы, так усебакова ахапіў умовы жыцьця і працы асьветніка, што раённыя сходы асьветнікаў вельмі мала чаго дадалі. Дадаткі ўносіліся па забесьпячэньню загадваньня інтэрнатамі пры сямігодках, габінэтамі і іншае.

Асобна стаяла пытаньне аб аплаце кватэр настаўнікаў першага канцэнтру сямігодак, асабліва ў гарадох: Горкі, Дуброўна, Копысь, Мсьціслаўль. Працаўнікі гэтых гарадоў дасюль атрымліваюць пэнсію па стаўках вясковых асьветнікаў і прэтэндуюць на ўраўненьне ў правох на кватэры з вясковымі асьветнікамі. На гэтыя прапановы не згаджаліся прадстаўнікі адміністрацыі і справа разглядалася ў канфліктным парадку.

Амаль па ўсёй акрузе спрэчнымі былі наступныя пункты колумовы—аплата за пераводы працаўнікоў супроць іх жаданьня і аплата пераводаў па рацыяналізацыі, але па гэтых пунктах хутка дасягалася згода ў прымкамэрах.

Найбольш вострыя спрэчкі выклікаў параграф праэкту аб аплаце расходаў па выкліку асьветнікаў РВК па службовых справах у тым выпадку, калі асьветнік жыве ад РВК далей 3-х вёрст. Па некаторых пунктах колумовы былі канфлікты, толькі дзякуючы навізьне справы.

Так, па Копыскаму р. РВК пашоў на канфлікт па § 20 аб тым, каб усім пэдпрацаўнікам сваечасова прадстаўлялі сродкі для працы і адпавядаючыя санітарна-гігіенічным умовам памяшканьні, а тэхпрацаўнікам прылады для іх працы. На ўсе захады старшыні М. К.—Р. В. К. цьвярдзіў: „Згодна каштарысу, а калі ў каштарысе няма, то ўзяць неадкуль“. § 28 праэкту калумовы аб карыстаньні культасьветнікамі дадатковым адпачынкам, таксама па гэтаму раёну ўперся ў каштарысныя мажлівасьці. І тут праланова РВК была адна: „згодна каштарысу“. Усё-ж такі ня гледзячы на навіну справы калумоўная кампанія дала добрыя вынікі. Ускалыхнулася грамадзкая думка асьветніка. На абгаварэньне калумоў асьветнікі зьвярнулі вялікую ўвагу і значную актыўнасьць. Нават тэхпрацаўнікі на прафдэлегацкіх і агульных сходах уносілі свае дадаткі і зьмены.

З другога боку некаторыя МК паддаліся ўплыву нават асьветніцкіх жаданьняў і ў праэкт калумовы ўносіліся такія дадаткі, якія не маглі быць праведзены ў жыцьцё, калі выходзіць з бюджэтных мажлівасьцяй і гэта выклікала новыя канфлікты з адміністрацыяй.

Агульныя дасягненьні калумоўнае кампаніі—гэта больш яснае ўяўленьне РВК і ўясьненьне саюзнай масай правоў асьветніка. Зарплата дагаворамі не абгаварвалася і паявлічэньне зарплаты адбылося ў маштабе рэспублікі.

**Д. Васілеўскі.**

# Эканомія на чужой скуры.

Узяўся з сярэдзіны гэтага навучальнага году Бел. Дзярж. Унівэрсытэт за арганізацыю практыкуму студэнтаў III курсу пэдфаку не на сьмех. Шукалі, шукалі пам. рэктара Слонім і дэкан пэдфаку Піотуховіч адпаведнай школкі ў Менску і, урэшце, спыніліся на 32-й акраіннай.

Нашлі, і ўзяліся.

Школьнай радзе, бяз слова з ие боку, дэкан прынёс паперку аб пераходзе школы пад ведама унівэрсытэту. Не забыўся дэкан зазначыць настаўніцтву, што гэта зьмена—**вялікі гонар** для іх, ды за адно даў абяцаньне, што за дадатковую працу, зьвязаную з практыкай студэнцтва будзе і адпаведная аплата, хоць апошнюю думку дэкан выказаў у выглядзе адказу на запытаньне.

З сярэдзіны лютага сталі прыходзіць у школку па 40-50 чалавек студэнтаў штодзённа з такімі заданьнямі:

Гігіена і фізычнае выхаваньне ў школе.

Комплексная сыстэма на практыцы.

Гісторыя, формы і праца вучнёўскага самакіраваньня.

Мэтады працы ў школе.

Шчыра ўзяліся за працу як студэнты, так і настаўнікі. Настаўніцкая канцэлярыя і, нават, паасобныя настаўнікі зьвярнуліся (у час перапынкаў) у справачнае бюро.

Частавата настаўнікі сталі заставацца на гадзінку-паўтары пасьля працы, каб растлумачыць студэнтам тое, што не пасьпелі ў час перапынкаў. Шпарчэй забегалі старожкі. Пазьней стаў заседжвацца дзелавод.

Праходзіць тыдзень, другі... а аб аплаце ні гу-гу. Бачаць працаўнікі, што Унівэрсытэт гатоў лічыць «гонар» дастарчальнаю аплатаю за дадатковую працу; сабраліся яны і напісалі пратакол, у якім папрасілі ці спыніць практыкум, ці аплаціць дадатковую працу 10 рублямі ў месяц на камплект, улічваючы і канікулярны час.

(У практыкавальных школах, 1-й беларускай і яўрэйскай, настаўніцтва атрымоўвае дадаткова ў першым канцэнтры 66, а ў другім 25 руб. на камплект у месяц).

Адаслалі пратакол у праўленьне.

Ні слуху, ні духу.

Пашоў прафупаўнаважаны ў праўленьне, а там яму т. Слонім (не за першым, а за 3-м разам):

Таким тоном с правлением университету разговаривать нельзя. Это нас возмутило. Да и дополнительной работы у вас почти нет. Кроме того, все бюджетные средства уже распределены. Мы решили отослать ваш протокол в деканат.

— На што-ж у-т даваў абяцаньне аплаціць працу і, наогул, браўся за гэту справу, калі ён ня можа, альбо ня хоча аплаціць працу. А што праца дадатковая ёсьць, дык у гэтым вельмі лёгка ўпэўніцца—зайдзіце ў школу і пабачыце.

— Посмотрим, может что-небудь и будет, но, во всяком случае, не то, что бы вам хотелось.

Прафупаўнаважаны—у дэканат, а там людзі далікатнейшыя і адказалі так (Піотуховіч):

— Ведаеце, мы пастанавілі прасіць праўленьне адпусьціць для аднachасовай узнагароды за **невялічкую** дадатковую нагрузку 300 руб. Думаю, што яно гэта зробіць, хоць сродкі яго і вельмі абмежаваныя. Затое на будучы год...

Як бачыце, праўленьне—у дэканат, дэканат у праўленьне і кожная ўстанова думае, што другая адпусьціць.

(Як бы там ні было, а 300 руб., далі).

— Дазвольце,—кажа прафдэлегат,—гэта-ж, калі лічыць на камплект у месяц, то выйдзе толькі 2 руб. 25 к. Палічыце. У школе 19 камплектаў. Сем месяцаў аплаты. 300:133=2 р. 25 кап. Гэта-ж калі ня лічыць дадатковых інфармацый, падрыхтоўкі адпаведных матар'ялаў канфэрэнцый; самога факту прысутнічаньня на лекцыях студэнтаў і г. д., а толькі адны перапынкі, дык і то выйдзе 24 гадзіны ў месяц, 6 рабочых настаўніцкіх дзён па самаму строгаму падліку. Плаціць за 6 дзён 2 рублі 25 капеек—зьдзек.

Бачыць дэкан, што ляпсус парадачны і дабаўляе:

— Мы будзем прасіць, каб дабавілі яшчэ што-небудзь, але, ведаеце, надзеі мала, бо сродкі... і г. д., але затое на будучы год...

Прафупаўнаважаны ў праўленьне саюзу Асьветнікаў (ня раз, а разоў 5).

А саюз не знайшоў нічога лепшага, як прапанаваць т. Слоніму склікаць сход настаўнікаў (у бліжэйшы тыдзень) і што на гэтым сходзе рабіць—ня ведаю, хіба можа вы, т. Мельнік, растлумачыце?

Ужо далёка больш за тыдзень часу прайшло, а сходу ня склікалі. І ня склічуць,—бо не на тое чалавек сядзіць на пасадзе намесьніка рэктара, каб склікаць людзей, якія-б яго палаялі.

А некалькі тыдняў назад я сам чуў, як дэкан пэдфаку сказаў нейкаму чалавеку:

— 300 рублёў, вызначаныя праўленьнем 32-й школе, сума канчатковая. Ніякіх сходаў па гэтаму пытаньню мы зьбіраць ня будзем.

Пачухаў гэты чалавек патыліцу, ды пайшоў.

Мне здаецца, што ён пайшоў у Рабоча-Сялянскую Інспэкцыю.

А калі ён туды не пайшоў, дык можа Інспэкцыя, прачытаўшы гэта, сама сходзіць куды сьлед.

**Асьцюк.**



# Аб гультайстве сярод вучняў.

У зьвязку з артыкулам настаўніка Хадакоўскага пад загалоўкам «Зьнішчылі гультайства» настаўнік **А. Лёсік** піша:

Я думаю, што вучня-гультая няма і быць ня можа. Ні ў якім выпадку эпітэт «гультай» ня можна прыпісваць вучню і гэты тэрмін не павінен ужывацца ў сьценах школы. Ці ня лепш было-б назваць гультайства няўважлівасьцю, а вучня—ня гультай, а няўважлівы. Ды і на самай справе, як можна назваць тое зьявішча, калі вучань сядзіць на лекцыі, ня слухае, а то і зусім займаецца другімі справамі, як не няўважлівасьцю. Але гэта паміж іншым, а галоўнае—гэта найсьці прычыны, якія выклікаюць, як няўважлівасьць, а таксама няцікавасьць, а пасьля і апатыю да заняткаў. Знайшоўшы гэтую хваробу, можна шукаць і лякарства. А што азначаныя фактары зьяўляюцца ня толькі школьнаю хваробаю, а і хваробаю наогул—факт, і дзе, як ня ў школе павінна весьціся самая рашучая барацьба з гэтым злом, бо школа адказвае і павінна адказваць за выхаваньне маладога пакаленьня. Ня можа школа і ня мае права выпускаць з сваіх сьцен людзей бяз жаднай практыкі, мэты, апатычных, а галоўнае не грамадзян сучаснага кірунку. Зноў такі, каб ухіліцца ўсяго гэтага, трэба шукаць прычын, якія і выклікаюць гэтае зло. Прычын, вядома, многа. Возьмем хоць-бы і такую. Часта бывае, што мы, настаўнікі, прапрапрацоўваючы з вучнямі той ці іншы школьны матар'ял і замацоўваючы навыкі, мала зьвяртаем увагі на тое, наколькі ўсе вучні цьвёрда ўявілі патрэбнае і, забываючы, што здольнасьць ува ўсіх вучняў неаднолькавая, праграму праходзім далей, таксама забываючыся, што ня вывучыўшы грунтоўна аднаго, ня можна пераходзіць к другому: лепш меней ды цьвёрда, чымся болей ды слаба,—так па крайней меры гаворыць педагогіка.

І вось дзякуючы таму, што мы некаторым чынам пайшлі ў разрэз з мэтодыкай, атрымліваецца наступнае: вучні, слабей падрыхтаваныя і менш здольныя, пры прахаджэньні новага матар'ялу, ня ў сілах асіліць яго. Пагэтаму і ня дзіва, што гэтыя вучні ня выконваюць заданьняў, на лекцыях трымаюць сябе няўважліва, займаюцца другімі справамі, а то і дурэюць.

Гэта ня гультайства, а наша, калі не памылка, то па крайней меры, недалёказрочнасьць у гэтым напрамку. Стоіць толькі абыйсьці азначаныя намі дэфэкты і лік непасьпяваючых зьменшыцца. Гэта адна прычына, а можа быць і другая, на якую мы, настаўнікі, амаль зусім не зьвяртаем увагі—гэта інтанацыя нашага голасу. Стоіць толькі монатонна пачаць лекцыю, як зараз-ж вучні адзін за другім пачнуць пазяхаць (вядома ня ўсе), лекцыя траціць сваю цікавасьць і вынікі тыя самыя: няўважлівасьць, няцікавасьць, апатычнасьць і іншая хвароба. Вось пагэтаму галоўная задача школы і настаўніка—адшуканьне прычын, якія робяць дрэнны ўплыў на вучня дзеля таго, каб у свой час папярэдзіць гэтую бяду.

Многа пішуць, а яшчэ больш гавораць, што з навыкамі ў школе бяда, дысцыпліна і наогул выхаваўчы бок хварэюць, намякаюць на хуліганства, бацькі вучняў на сходах скардзяцца, што дзеці распушчаны, іх, бацькоў, не паважаюць, вучыцца ня хочуць, ухіляюцца ад хатняе працы і г. д. З гэтым трэба згадзіцца. Так яно пакуль што ёсьць, але быць не павінна.

Ясна, што ў гэтым вінавата трохі і школа, бо яна ня прышла ў свой час на дапамогу, не папярэдзіла вучня ў свой час і не дала жыцьцёвага належнага кірунку.

Настаўнік **абуртавіч** даводзіць, што ня трэба сумаваць, што ў час перапынку, ці да пачатку заняткаў, вучні «гвалтуюць» і з кляснага пакою робяць закутак, дзе выпыльваюць мяшкі; ня трэба думаць і аб тым, што вясковая моладзь снуе вечарамі па вуліцы ды хуліганіць.

Шашкі у школе—шашкі дома. Бяз шашак у школе і дома, як без балалаечнай музыкі, не пабудуем сацыялізму?

Сумна, т. Хадакоўскі! Адно добра вы робіце, што прызнаецеся на «старонках асьветніка»,—яна вам дапаможа.

Гвалтуюць вашы вучні да заняткаў і ў час перапынку паміж лекцыяў, таму што ім няма чаго рабіць. Заданьняў дасьледчага характару ў іх няма, заняткаў трэба чакаць надта доўга, перапынкі—неабмежаваны, вось прычыны, якія штурхаюць вучняў падымаць у клясе пыл. Калі з прыходам вучняў прыходзіць і настаўнік у клясу, а ў час перапынкаў дае магчымасьць ім у працягу 10-ці хвілін выбегчы на сьвежае паветра, праветрыцца, расправіць, як кажуць, свае шлункі, ды зноў за працу, дык для гвалтаў ня будзе ні часу, ні месца. Але калі настаўнік не хаваецца ад сваіх вучняў на „доўгія" перапынкі; калі часта практыкуе з вучнямі заняткі фізвыху; калі адводзіць дзьве-тры гадзіны ў тыдзень для сьпеваў; калі рыхтуе з вучнямі пастаноўку для вучнёўскай раніцы; калі нагружае ўсіх вучняў старэйшых груп заданьнямі па з б о р у краяведчаскага матар'ялу, нагляданьнем за прыродаю, зборам розных вестак для с.-савету аб сваёй вёсцы з будовай дыяграм,—калі ў гэтым выпадку вучні знойдуць час і месца ў школе гвалтаваць, то «шашкі» не памогуць.

Трэба ўвесьці вучнёўскую насьценную газэту, трэба выпісаць для вучняў адпаведныя газэты,

А „шашкі" пры ўсім гэтым—такая дробязь, аб якой і гаварыць ня варта.

Я думаю, што ўсё гэта вядома наст. Хадакоўскаму, але ён піша толькі аб «шашках»,—выходзіць, што ён «пачаў асьвету вёскі» ды не з таго канца.

Гульня ў шашкі дзяцей да заняткаў—атрута на ўвесь дзень. Замест матэматыкі ці граматыкі—на сьвежую памяць—гульню.

Цікава ведаць, што робіць настаўнік, калі да пачатку заняткаў «партыя» ня скончана? Ці перарывае гульню, ці дапамагае змагацца „да перамогі?" Ці зразу забываюць дзеці на лекцыі, што яны толькі што гулялі ў «шашкі», ці хвалі гэтае гульні блукаюцца ў іх галовах на працягу ўсяе лекцыі? І далей—ці зьяўляюцца «шашкі» адпачынкам у час перапынку ад разумовай працы, ці яшчэ больш утамляюць дзяцей? Гульня ў шашкі патрабуе напружанае думкі, як і матэматычна, таму, я думаю, яна ў час перапынку яшчэ больш стамляе дзяцей. Незразумела і тое, што «пасьля нармальных заняткаў» вучні ня ідуць дадому, а гуляюць у шашкі ў тым памяшканьні, дзе ўжо скарыстаны ўвесь тлён?

Урэшце, што кажуць бацькі вучняў, бачачы, як дзеці цэлы вечар рыхтуюцца да заўтрашняй «гульні ў шашкі» ў школе?

Не, ня згодзен я з т. Хадакоўскім адносна «шашак у школе»!

Шашкі дома—пасьля таго, як прачытана газэта, яшчэ рэч карысная, а к школе—на працягу працоўнага дню—яны ня прысталі, надта шкодная гульня; ды ў комплекс іх трудна ўвязаць, акрамя толькі тэмы «новы быт».



# Праца настаўніцкага фіз.-матэмат. гуртка.

*(Менск).*

Менскі гурток настаўнікаў матэматыкі і фізыкі, які працуе з году ў год, зьяўляецца тэй кузьняй, дзе выкоўваюцца новыя шляхі, новыя мэтады працы па выкладаньню матэматыкі і фізыкі ў савецкай школе. Усе найбольш цяжкія і складаныя пытаньні ў гэтай працы абгаварваюцца ў гуртку. Ставяцца тут і тээрэтычныя даклады для пашырэньня і абнаўленьня ведаў у галінах матэматыкі і фізыкі, ставяцца і даклады мэтадычнага характару, у якіх высьвятляюцца новыя лепшыя шляхі ў выкладаньні гэтых прадметаў. Даклады выклікаюць шэраг запытаньняў, выклікаюць абмен думак, дзе выяўляюцца і асабістыя погляды на тое або іншае пытаньне і агульны погляд большасьці ўсяго калектыву.

Калектывізм гэтай працы зьяўляецца адным з найбольш каштоўных яе бакоў, бо калі аднаму настаўніку часам цяжка знайсьці адпаведную літаратуру (часта ён і ня ведае аб новых цікавых матар'ялах), цяжка аднаму разабрацца ў тым або іншым пытаньні, то калектыву настаўнікаў ужо шмат лягчэй гэта зрабіць. У калектыве можна атрымаць і параду і адказы на запытаньні і больш дэтальна разьвіць тыя або іншыя пытаньні шляхам распрацоўкі і заслухоўваньня адпаведных дакладаў. А калі з сяброў гуртка часам ніхто ня можа зрабіць дакладу на тую або іншую тэму, то калектыў можа запрасіць дакладчыка і з боку.

Фізыка-матэматычны гурток шмат разоў, такім чынам, запрашаў зрабіць даклад навуковых працаўнікоў БДУ і яны ахвотна на гэта згаджаліся.

Гэты калектывізм працы яшчэ каштоўны і тым, што ён будзіць думку настаўніка, будзіць яго актыўнасьць, узьнімае новыя пытаньні, ставіць новыя праблемы. У гуртку кожны настаўнік можа паставіць на абгаварэньне тую або іншую тэму, можа актыўна прыняць удзел у гэтым абгаварэньні, можа бачыць, як іншыя сябры глядзяць на гэтае пытаньне. Таксама ў гуртку кожны настаўнік можа вынесьці на абгаварэньне свае думкі, сваю працу па тым або іншым пытаньнем, можа, такім чынам, атрымаць калектыўную крытыку і праверку сваіх думак.

У менскім фізыка-матэматычным гуртку ў бягучым годзе ўжо адбылося 16 сходаў, на якіх заслухана 17 дакладаў: 13 па матэматыцы і 4 па фізыцы, з іх 7—на тэмы тэорыі і 10 на тэмы мэтодыкі і практыкі.

Вось некаторыя з гэтых тэм.

Эволюцыя поглядаў на выкладаньне матэматыкі ў XIX стагодзьдзі.

Арытмэтыка ў курсе 2-га канцэнтру 7-годкі.

Элемэнты трыгонамэтрыі ў курсе 7-годкі.

Прынцып Кавальеры ў геомэтрыі.

Аб разьвіцьці функцыянальнага мысьленьня на лекцыях матэматыкі.

Элемэнты аналізу ў школьнай матэматыцы.

Простыя і дзесятковыя дробы ў курсе 4 годкі.

Асноўныя рысы сучаснага разьвіцьця фізыкі.

Пастаноўка выкладаньня геомэтрыі ў сучаснай школе.

Матэматычны элемэнт у фізыцы.

Элемэнты вар'яцыоннай статыстыкі ў працы настаўніка.

На вялікі жаль, перагружанасьць большасьці настаўнікаў працай не дае магчымасьці акуратна наведваць гэтыя сходы фізыка-матэматычнага гуртка. Шмат настаўнікаў працуюць ня толькі зранку, а і ўвечары, і на сходы гуртка яны ня маюць магчымасьці прыходзіць. Але зацікаўленасьць гэтай працайназіраецца вялікая: некаторыя настаўнікі не прапускаюць ніводнага сходу, а бывалі сходы, на якіх прысутнічала да 60-ці асоб.

У гэтым годзе яшчэ будуць два-тры сходы чарговыя, а затым будуць пастаўлены справаздачныя даклады, у якіх будуць зроблены падагульненні гадавой працы ў школе па матэматыцы і фізыцы. **А. Касабуцкі.**



# Драматызацыя ў школе.

Існаваньне гурткоў драматычнага, харавога і музычнага ў школах І-га і ІІ-га канцэнтру як гораду, так і вёскі, мэтазгодна і патрэбна з пэдагагічнага пункту гледжаньня прыемлема і апраўдала сябе, маючы на мэце як выхаваўчы ўплыў на дысцыпліну вучняў, так і імкненьне да разьвіцьця сярод іх мастацкіх навыкаў.

На падставе гэтага, працу драмгуртка патрэбна весьці наступным парадкам, падзяліць яе ў сямігадовай школе на наступныя 3 часткі:

Групы 0—2: вольная імпровізацыя (гутарка на заданую тэму), калектыўныя выразныя чытаньні, простыя драматычныя гульні.

Групы 3—4: больш складаныя драматычныя гульні, пераход да арганізацыі простых спэктакляў, дэклямацыя кароткіх мастацкіх твораў.

Групы 5—7: падрыхтоўка і выкананьне спэктакляў, складаных інсцэніровак і мастацкая дэклямацыя.

На групах 0—2 гульні павінны быць прымітыўна-паказальнымі ў выглядзе загадак, шарад, расказаў, прыказак. Належыць выходзіць з натуральнага жаданьня дзяцей адбіць зацікавіўшыя іх зьявы жыцьця і інш.

Пажадана, каб вобразы гульні або інсцэніроўкі былі жыцьцёвымі, узятымі непасрэдна з дзіцячага жыцьця. Ад пачатку і да канца гульня павінна мець калектыўны характар (адбіваць жыцьцё рабочых, чырвонаармейцаў, вучняў, Міліцыі і г. д.). Пры выкананьні тэй ці іншай гульні трэба імкнуцца, каб выказаць усё рухамі і абыходзіцца з малым запасам слоў (пасадка ў вагоны, на параход, лодку, маршыроўка і інш.) Праца з дзецьмі праводзіцца паклясна і ня больш 2-х гадзін у тыдзень ў незаняты час.

На групах 3—4—інсцэніроўка невялікіх расказаў з запамінаньнем дыялёгу (намячаецца плян прачытанага расказу, выпячваюцца ролі і праводзіцца дзяцьмі вольная імпровізацыя, не бяда, калі яна значна адыйдзе ад арыгіналу), Пажадана праводзіць інсцэніроўкі зьявішч школьнага жыцьця, або характэрных паасобных выпадкаў. Калі няма магчымасьці ўвесьці ў гульню дзяцей усяе клясы за раз, то клясу належыць падзяліць на трупы з такім разрахункам, каб незанятых дзяцей ня было.

Дзеля больш сталай падрыхтоўкі, патрэбна рабіць рэпэтыцыі, але ня шмат, каб не адбіць ім ахвоты ўдзельнікаў. Не абавязкова зьвязваць гульні з адным месцам (сцэна, пляцоўка), а імкнуцца каб гэта адбывалася ва ўмовах бягучага жыцьця дзяцей (кляса, двор, гарод, сад, поле, луг, лес). На першых кроках ня варта высоўваць і сваечваць вялікай увагі на касьцюміроўку, якая можа іншы раз сапсаваць справу. Пажадана, каб прадметы абыходу, па магчымасьці, мяняліся пераста-ноўкаю з аднаго месца на другое (сталы, крэслы, скрынкі, бочкі і інш.). Фармальных спэктакляў з літаратурным тэкстам, па магчымасьці, ня ўжываць. На розных сьвятах можна дэманстраваць больш удалыя інсцэніроўкі-гульні, калі яны маюць сувязь з сьвя-

там, або арганізацыйным момантам. Пажадана, каб гульні і імпровізацыя, а таксама і невялікія спэктаклі, мелі ўвязку з прахадзімым комплексам і былі яго афармленьнем.

У спэктаклі, як і ў гульнях, дзеці павінны больш дзейнічаць, чым гаварыць, ролі павінны быць кароткімі, але шматлікімі, з тым, каб заняць усіх дзяцей. Непатрэбна выдзеляць адных (гэрояў) і замацаваць другіх, а неабходна апірацца на грамаду, (сяляне, рабочыя, чырвонаармейцы, вучні).

Музыка, сьпевы, рытм руху, творчая выдумка пажадана і патрэбна. Неабходна ўхіляцца ад шаблёну. Заняткі з клясамі 3-4 праводзяцца паклясна ў незанятны час ня больш 2-х гадзін у тыдзень.

**Па групах 5, 6 і 7** заняткі праводзяцца гурткавым парадкам. У гурток уваходзяць толькі жадаючыя. Спэктаклі павінны быць падрыхтаваны добрасумленна і акуратна, маючы на ўвазе іх грамадзкую каштоўнасьць. Прысутнасьць бацькоў вучняў пажадана на ўсіх школьных пастаноўках. Зьмест школьных спэктакляў павінен быць запоўнен ідэямі рэвалюцыі новага быту, сацыялістычнага будаўніцтва, камуністычнага выхаваньня ў мастацкім афармленьні. Пры пастаноўцы спэктакляў і выбары п'ес для іх патрэбна імкнуцца да новых форм, масавых дзей, зьвязаных з фізкультурай, рытмікай, музыкай і сьпевамі. У падрыхтоўку да спэктаклю належыць прыцягваць, як мага больш вучняў (пісаньне афіш, падрыхтоўка вопраткі, убраньне памяшканьня, падрыхтоўка сцэны, дэкарацыі). Патрэбна праводзіць увязку гурткавае працы з другімі школамі, піанэратрадамі, камсамолам, тэатрам і рабочымі клюбамі.

Пажадана, каб кіруючыя органы асьветы і Акрана пэрыядычна арганізоўвалі дзіцячыя спэктаклі і канцэрты ў тэатрах і вялікіх салях клюбаў у агульна-гарадзкім ці мястэчковым маштабе, дзеля выкананьня якіх патрэбна запрашаць артыстых-спэцыялістых, а таксама мэтазгодна рабіць удалыя пастаноўкі вучнямі згуртаванымі сіламі.

У працу гуртка патрэбна ўвесьці знаёмства з мімікай, дыкцыяй, выразным чытаньнем. На працу драмгуртка ў другім канцэнтры ў незанятны час патрэбна адводзіць ад 2-х да 3-х гадзін у тыдзень.

Працу драмгуртка па другому канцэнтру і падрыхтоўчая праца паклясна па першаму канцэнтру павінна быць разьлічана толькі на адзін год.

**Масюкевіч.**

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

# Школьная парта.

Адным з самых балючых пытаньняў у нашай школьнай сучасьнасьці зьяўляецца пытаньне аб школьным абсталяваньні наогул і аб школьнай парце ў прыватнасьці. Гэтае пытаньне мае ўжо сваю гісторыю. Яшчэ старая школа не магла пахваліцца значнымі дасягненьнямі ў гэтай галіне. Сярэдняя школа была больш-менш абсталявана здавальняюча, клясныя парты ў ёй былі прыстасаваны для «маменькіных» сынкоў добра, яны былі ясеневыя, дубовыя, паліраваныя і належных разьмераў.

Затое адарваная ад усяго, нават ад жыцьця, ніжэйшая школа ня мела нічога гэтага. Там панавала эканомія, адсутнасьць сродкаў і ў зьвязку з гэтым, адсутнасьць належнага абсталяваньня. Самым слабым месцам і тады у «народных» вучылішчах былі школьныя парты. Яшчэ так званыя, міністэрскія школы былі абсталяваны таксяк, а што датычыцца валасных, то тут ужо ўсё залежала ад валасных заправіл і іх поглядаў на гэтую справу. Даўгія, 8-х мясцовыя, шырокія, з дыстанцыяй у аршын, парты, якія захаваліся ў вясковых школах з далёкіх часоў, дагэтуль жывуць яшчэ ў памяці нашага пакаленьня, якое на гэтых лавах сядзела і якое ім удзячана за многія хваробы, нажытыя ў школах. Толькі земства, пачынаючы з 1912 году, прабіла ў гэтым пытаньні брэш і трохі аздаравіла школу. На школьныя парты земствам была зьвернута належная увага, былі выпрацаваны тыповыя парты і гэтымі партамі патроху земства забясьпечвала свае, так званыя земскія вучылішчы.

Галоўная каштоўнасьць гэтых земскіх парт—іх моцнасьць, грунтоўнасьць і адпаведнасьць узросту дзяцей. Яны рабіліся на 6 вучняў, здавальняючага разьмеру, ніз фарбаваўся жоўтай фарбай, верхняя дошка чорнай, пры гэтым яна адчынялася на завесках.

Сусьветная вайна спыніла набыцьцё новага абсталяваньне ў школы і ўвесь час вайны, акупацый і першых гадоў рэвалюцыі нічога новага школы не набылі, яны абыходзіліся старым абсталяваньнем.

Асабліва шкодным для беларускіх школ былі нямецкая і польская акупацыі. Будынкі многіх школ былі заняты вайсковымі часткамі пад пастой, настаўнікі пры гэтым выганяліся са сваіх кватэр пры школах і школьная маемасьць паступала цалкам пад загад вайсковых камандзіраў.

Вынікам усяго гэтага было тое, што школьная маемасьць зусім руйнавалася, кніжкі і мэбля паліліся, і ў першую чаргу парты.

У такім становішчы школы знаходзіліся да 1923 году. І толькі з гэтага году пачалося набыцьцё школамі абсталяваньня. Гэта набыцьцё абсталяваньня ішло рознымі шляхамі. Установы, настаўнікі, насельніцтва, бацькі —ўсе прымалі ўдзел у снабжэньні школ абсталяваньнем і ў першую чаргу партамі. Установы, на тыя капейкі, якія адпускаліся, заказвалі мэблю. Настаўнікі сьцягвалі яе адусюль, з зачыненых школ, нават, лаўкі з зачыненых касьцёлаў і капліц; бацькі, бачучы, што іх дзецям няма дзе сядзець у школе, рабілі лавы самі. Зразумела, што гэта мэбля ня вытрымоўвае ніякай крытыкі. Гэтымі лавамі і зараз запоўнены нашы школы. Рэдка ў якой школе захаваліся старыя земскія парты. І хоць яны далёка не адпавядаюць свайму прызначэньню, але на агульным фоне саматужніцтва ў пабудове школьных парт і бязладзьдзі, яны зьяўляюцца сьветлай плямай на цёмным фоне школьнага абсталяваньня.

Прыяжджаеш у школу і страх бярэ, калі паглядзіш, на чым сядзяць і як сядзяць дзеці. Часта з-за лавак блішчаць адны дзічачыя вочы, ці тарчаць галоўкі. Падыйдзеш да лавы і паглядзіш на дзяцей. Парта зроблена бацькамі, з кольля, непагабляванай дошкі, сядзеньне з мяліцы. Усе гэта скрыпіць, валіцца, хіліцца і такога разьмеру, што дзеці могуць пакласьці на верхнюю дошку толькі свае падбародкі, а ў лепшым выпадку локці рук, падняўшы іх да плеч, пры гэтым верхняя дошка парты прыходзіцца ім да пах. Сядзеньні знаходзяцца так далёка ад верхняй дошкі, што вучні сядзяць, наваліўшыся грудзямі на край дошкі. Сьпінак у большасьці няма. Усе іншыя часткі парт зусім не прыстасаваны ні да ўзросту, ні да элемэнтарных запатрабаваньняў школьнай гігіены. Нахіл верхніх дашчок у значнай частцы парт такі, што ўсё, пакладзенае на дошку, паўзе ўніз і валіцца на падлогу. Дошкі гэтыя дужа вузкія, скрынак пад імі часта няма і класьці кніжкі недзе.

Падчас сходаў сяляне садзяцца на верхнія дошкі парт, а ногі становяць на сядзеньне. Ад гэтага парты ломяцца, хіляцца і робяцца такімі брудны-

мі, што вучні баяцца потым сесьці на іх, а тэхпрацаўнікі школ ніколі іх ня мыюць. Такім чынам, да бруднай падлогі ў школе далучаюцца брудныя парты і гэта канчаткова пагаршае санітарнае становішча школ.

Сустракаюцца школы, у якіх назіраецца поўная адсутнасьць якіх-бы то ні было парт. Замест іх цягнуцца ад сьцяны да сьцяны дошкі, не габляваныя, прыбітыя цьвікамі проста да бярозавых калодак, вышэйшыя—для кніжак, ніжэйшыя—для сядзеньня. Праходу паміж імі няма і дзеці прымушаны або пералазаць цераз іх, або падпаўзаць пад іх.

У апошнія два гады пачаўся выраб новай мэблі Раённымі Выканаўчымі Камітэтамі. Але, на вялікі жаль, гэты выраб новых парт робіцца без усялякае сыстэмы і плянаў. РВК здаюць выраб парт з таргоў якому-небудзь селяніну, або арцелі, ці мястэчковаму стальмаху, якія і робяць парты з пад тапара, абы крапчэй, ня лічучыся з тым, якімі гэтыя парты павінны быць

2 гады таму назад НКА разаслаў па мясцох абежнік з малюнкамі і табліцамі лічбаў па вырабу парт па ўсіх раёнах, але-ж колькі я ні дабіваўся ў раёнах, каб знайсьці гэтыя матар'ялы, нідзе мне не ўдалося іх адшукаць. Матар'ялаў не знаходзіцца і РВК няма чым кіравацца. Настаўнікі ў пабудове парт ня прымаюць ніякага ўдзелу, ды калі-б яны і хацелі, дык таксама ў іх пад рукамі няма належных чарцяжэй і вестак аб тыповых партах.

Паўстае гострая патрэба даць масавіку настаўніку ў папулярнай форме ўсе дакладныя весткі аб галоўных асноўных прынцыпах, якім павінна адпавядаць школьная парта. Гэта тым больш неабходна зрабіць, што з кожным годам пашыраецца адчыненьне новых школ, згодна пляну ўвядзеньня ўсеагульнага навучаньня. Пры правядзеньні ў жыцьцё гэтага пляну, маецца на ўвазе ня толькі павялічэньне ліку школ, але і паляпшэньне іх якаснага стану. З гэтай мэтай у плян уключаецца належная сума грошай на першапачатковае абсталяваньне кожнага новага кампрлекту неабходнай мэбляй і школьнымі прыладамі (па 300 руб. на кожны новы камплект).

Такім чынам, мы стаім перад шырокім разгортваньнем школьнага будаўніцтва і ў той час, калі будуюцца і будуць будавацца новыя школы, было-б вялікай памылкай не зьвярнуць увагі на набыцьцё для новых школ мэблі і, у першую чаргу, парт.

Ня можна ні ў якім разе дапусьціць таго, што рабілася дагэтуль. Неабходна прыцягнуць да гэтае справы шырокія колы настаўніцтва, узброіўшы яго належнымі ведамі, бо ў тым шырокім будаўніцтве, якое ўжо пачынае разгортвацца ў раёнах, настаўніцтва ні ў якім разе ня можа застацца з боку, а павінна прыняць у гэтым будаўніцтве самы шырокі ўдзел.

Мае месца ў некаторых раёнах спроба рабіць парты ў масавым маштабе, але за адсутнасьцю належных узораў і малюнкаў, гэтыя парты выходзяць з майстэрні досыць няўдалыя: не адпавядаючай велічыні, з прыбітымі наглуха верхнімі дошкамі, шасьцімясцовыя.

Каб раз назаўсёды пакласьці канец гэтаму бязладзьдзю і блытаніне, Народнаму Камісарыяту Асьветы неабходна, як мага хутчэй, стандартызаваць тып школьнае парты, разасласць чарцяжы гэтае парты па раёнах і ўзьняць пытаньне аб вырабе школьнае мэблі ў цэнтралізаваным усебеларускім маштабе, што значна патаньніць яе каштоўнасьць. Пры ўсіх меркаваньнях аб тыпе парт, трэба мець на ўвазе масавую школу, якую, пасутнасьці, прыходзіцца занава абсталёўваць; вопытна-практыкавальныя школы і іх абсталяваньне ня могуць служыць прыкладам для масавай школы, першыя могуць быць абсталяваны інакш, згодна апошнім вапатрабаваньням пэдагогікі, мэтадаў выкладаньня і школьнае гігіены. Для масавай школы з усяго гэтага прыходзіцца браць толькі тое, што магчыма ажыцьцявіць пры нашых умовах.

**С. Шыёнак.**

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

# Усё пражыта.

## (Успаміны).

### I.

Па ўсёй краіне Беларусі лілася кроў. Чуліся стогны прыгнечаных бедных людзей, чуліся іх енкі, скаргі пакутнай долі. Людзі марнелі, гаспадаркі занепадалі.

Жыцьця ня было. Белыя былі гаспадарамі ў пакутнай краіне і мучылі народ, калі хацелі, і як хацелі.

Але ня доўга панавалі паны. Прышоў канец і іх панаваньню. Пад абурэньнем прыгнечаных і націску чырвоных, яны прымушаны былі пакінуць Беларускую старонку. Палякі ўцяклі. Разбурылі краіну, зьнішчылі яе і кінулі. Удзень і ўначы за імі ішлі чырвоныя.

Зараз-жа пасьля аслабаненьня Беларусі ад белапалякаў, была абвешчана мабілізацыя.

Настаўнік вясковай школы Цімох Нілаў быў таксама прызваны ў шэрагі чырвоных. Праз тыдзень ён ужо быў у Смаленску.

Пакінуў ён у сваёй школцы жонку і трое дзяцей без усялякіх сродкаў. Ня было калі раздумваць, як яны будуць жыць.

Цімох Нілаў думаў толькі аб тым, каб хутчэй перамагчы ворага, прагнаць яго за межы сваёй краіны і ён цалкам быў захоплены гэтай справай.

Між тым перамога з кожным днём расла. Чырвоныя былі ўсюды пераможцамі, а гэта давала ім больш бадзёрасьці.

Няпрыкметна прайшло лета 1920 г. Надыйшла восень. Прырода з кожным днём рабілася няпрыветнай. Лісьцё з дрэў асыпалася, трава жаўцела, палі пусьцелі.

Праца сярод чырвонаармейцаў кіпела. У часы адпачынку вяліся заняткі па ліквідацыі няпісьменнасьці, палітычныя, выхаваўчыя, а там кіно, спэктаклі і г. д.

Настала зацішша, праўда, ня ўсюды, а толькі на Беларусі, калі ня лічыць бандыцкіх учынкаў.

Цімох Нілаў часта атрымоўваў лісты з дому, у якіх жонка скардзілася аб тым цяжкім становішчы, у якім яна апынулася з дзецьмі пасьля яго мабілізацыі.

Знайшліся людзі, якія рабілі непатрэбныя прычэпкі да сям'і, выганялі са школы, усадзілі ў адзін школьны пакой папа з сям'ёю і апошняя была гаспадаром школы. Прыходзілася весьці барацьбу за кожную нязначную рэч, як, напрыклад: печ, дровы і г. д.

Пацярпі крыху—пісаў Нілаў. Перажылі болей, пражывем і меней.

Хоць у нас і недахопы ва ўсім, але я з голаду не прападу, а табе пасылаю трохі грошай, мо' купіш які-небудзь кавалак хлеба.

Думаю, што самае горшае мы пражылі. Галоўны наш вораг пераможан. Маю надзею, што да пачатку школьных заняткаў буду дома.

Праходзіў тыдзень, другі і Нілаў атрымоўваў ад жонкі ліст з такімі навінамі, што больш некуды.

Грошы, высланыя Нілавым, ляжалі без усялякага руху. За іх немагчыма было купіць нават фунта хлеба. Апошні быў толькі ў заможнікаў.

Прадаваўся ён ці на золата, ці на царскія грошы. Цана стаяла высокая, 250 р. пуд крэдыткамі.

Атрымаўшы такое паведамленьне Нілаў задумваўся над ім і ня ведаў, што пісаць жонцы. Хлеба сколькі хочаш, а ўзяць яго немагчыма.

«Бадай дзень і ноч кручу швэйнай машынай. Ужо рукі баляць, начэй не дасыпаю, ліш-бы здабыць які-небудзь кавалак хлеба. Зарабляю вельмі мала. Каб не машына, то зусім загінула-б. Дапамогі чакаць не адкуль. Гарую не я адна, а большасьць бедных чырвонаармейскіх сем'яў.

Больш грошай мне не прысылай, бо яны тут ня ідуць. Пакуль што аб нас не клапаціся. Буду працаваць, буду змагацца за жыцьцё, пакуль хопіць сілы.

— Дык вось што,—думаў Нілаў. Мы павінны змагацца з рознымі ворагамі, якія адкрыта на нас лезуць, цярпець розныя недахопы, дзякуючы тэй спадчыне, якая засталася нам ад зьнішчанага буржуйнага ўраду. Сям'я таксама нясе ўсе вынікі грамадзянскай вайны. Мы абараняем заваёвы Кастрычніка, але разам з гэтым абараняем і тых заможнікаў-кулакоў, якія няпрыхільна адносяцца да савецкай улады...

II.

Адзін раз у вайсковым клюбе быў наладжан вечар самадзейнасьці. Праўда, і да гэтага часу яны сяды-тады праводзіліся, але гэты апошні вечар быў надзвычайным. Справа ў тым, што на ім выступаў хор з беларускімі сьпевамі і дэкламацыяй вершаў, якіх раней ніхто ня чуў. Усё было так проста, так зразумела і між тым так прыгожа, што беларуская мова захапіла цалкам усіх прысутных.

— Гэта-ж у нас па вёсках так гавораць,—думаў Нілаў.

Вечар закончыўся, усе разышліся па сваіх казармах спаць. Але Нілаў ня спаў. Яму ўспаміналіся новыя словы: праменьні, блакіт, штандары, волат і г. д.

На другі дзень шмат хто з чырвонаармейцаў распытваліся адзін у аднаго аб беларускай мове, літаратуры, шукалі яе ў бібліятэках, але нідзе нічога не знайшлі.

Беларускіх газэт ня было, хаця хтось сказаў, што газэты і кніжкі беларускія выдаюцца толькі ў Менску.

— Калі прыеду дадому, то абавязкова вазьмуся за вывучэньне роднае мовы, бо прыдзецца жыць сярод тых гушчаў, якія гавораць між сабою на ёй.

Адно неяк непакоіла Нілава, што вайна з панамі спынілася, а дамоў ня пушчаюць, а сядзець і павольна выконваць маленькую работу—было неяк н дна.

Прайшло тры дні пасьля вечару самадзейнасьці. Жыцьцё бегла звычайным тэмпам са звычайнымі клапотамі і нічога новага, сьвежага ня было ў ім.

Быў сьвяточны дзень. Чырвонаармейцы адпачывалі ад сваёй штодзённай працы. Адны з іх чыталі газэты, спрачаліся, другія ў шашкі рэзаліся, трэція, сабраўшыся ў гурток, слухалі розныя апавяданьні і г. д.

У гэты час увайшоў камандзір у памяшканьне і сказаў.

— Таварышы! а шостай гадзіне сабраньне ў клюбе, а потым кіно.

Сход цягнуўся гадзіны дзьве, а перад зачыненьнем было абвешчана, што ўсе настаўнікі, якія ёсьць сярод чырвонаармейцаў, павінны заўтра зьявіцца ў канцэлярыю за атрыманьнем дакумантаў для адпраўленьня дадому, згодна распараджэньня Рэвал. Ваеннага Савету Рэспублікі.

Пакуль здаў Нілаў усю амуніцыю, пакуль атрымаў дакуманты, дык сонейка зьвярнула за поўдзень. А 'шчэ праз дзьве гадзіны ён ішоў на станцыю, каб пасьпець на цягнік, які ў чатыры гадзіны ішоў на Менск.

Перад самым звальненьнем у бестэрміновы водпуск Нілаў атрымаў ліст ад жонкі, якая пісала.

«Лета ў нас цёплае і сухое. Усё на палёх вяне і жаўцее. Бульба мусіць загіне. Але гэтая бяда хоць і вялікая, але ёсьць яшчэ і горшая. У нашай старонцы стала неспакойна, ня гледзячы на тое, што вайна спынена. Зьявіліся бандыты, якія хаваюцца па быўшых казённых лясох.

А ўсё панскія сынкі, да кулацкія. Былі яны ворагамі працоўных з прадвеку і заўсёды будуць. Калі будзеш часамі ехаць дадому, то ноччу ня ідзі, бо небясьпечна. Ёсьць чуткі, што настаўнікаў звальняюць з шэрагаў арміі.

Да гэтага часу хадзілі ў лес, а цяпер кінулі, бо аднаго разу церабельскіх кабет напужалі гэтыя бандыты і з таго часу ніхто ў лес ні нагой.

Прачытаўшы ліст, Нілаў думаў:

— Калі і запраўды ёсьць бандыты, то гэта знача, што ўлада на мясцох слаба працуе, альбо заможнікі ім дапамагаюць. Трэба будзе за ўсім гэтым пасачыць і вывесьці на чыстую ваду.

Нілаў прыехаў дадому адзінаццатага ліпеня. Здаецца ня вельмі шмат прайшло часу, калі Нілаў пакінуў школку, усяго 11-ць месяцаў, а плот ля школкі абурыўся і выглядала яна наогул нейкай сіратой, сярод яснага і пякучага дня. Шыбы ў вокнах пабітыя, сьцены чорныя, цьвілыя. У класе вільгаць. Усюды, дзе спыняўся зрок, адчувалася, што гаспадара ў школе ня было.

Пакуль пачаўся навучальны 1921-22 год, пакуль надышла восень, Нілаў прывёў усё ў належны лад як школку, так і ўсё, што да яе належала. Кляса была выбелена, вымыта і мела прыгожы выгляд.

Адно непакоіла Нілава, што ня было вучнёўскіх падручнікаў, пісьмовых прылад і не прадбачылася.

Стар'я было шмат, а вучыць ня было на чым. Усе падручнікі аджылі ўжо свой час і ніяк не адпавядалі тэй мэце, якая патрэбна была ў новай працоўнай школе.

А тут яшчэ трэба было ня толькі вучыць, а і самаму вучыцца і вучыцца, каб потым вучыць будучых грамадзян вольнай краіны, ведаць добра родную беларускую мову.

Падсобнікаў яшчэ ня было дастаткова. Жаданьне вучыцца было, а здабыць літаратуры па тэй ці іншай галіне ня было магчымасьці за адсутнасьцю сродкаў.

Пэнсію выдавалі несваячасова—праз два-тры месяцы. Прыходзілася галадаць, хадзіць абшарпанымі. Адзеньне сякое-такое было верхняе і споднее, але і тое палякі забралі, калі ўцякалі ў Польшчу.

Настаўнікі, якім жылося ніштавата да вайны, і калі прышоў цяжкі час гэтага жыцьця, калі немагчыма было пражыць на тую пэнсію, якая была вызначана ўладай, яны кідалі школы, ішлі на гаспадаркі і чакалі лепшых часоў.

Праўда, такіх было мала. Большая частка іх перанесла ўсе цяжары вайны, рэвалюцыі, верылі ў лепшы час, лепшую будучыну і не памыліліся.

Было шмат недахопаў, памылак, недарэчнасьцяў у гэты цяжкі час, але ўсё было пераджыта. Праца ўсё перамагла. За ёй ня было часу думаць аб паляпшэньні свайго становішча. Ды немагчыма было чакаць зразу паляпшэньня ў разбуранай і зьнішчанай вайной старонцы.

Трэба было прыстасоўвацца да тых умоў жыцьця, якія былі ў той час, цяжкі час. Гэты час шмат каго навучыў жыцьцю і барацьбе за яго.

Гэты час ужо прайшоў, мінуўся. Асьветнікі выйшлі на новы шлях, дзякуючы ўмеламу падыходу і кіраўніцтву кампартыі.

Ад старой школы ўжо нічога не засталося, а новае ўсё набываецца, вывучаецца, і дапасоўваецца да жыцьця.—Старое пераджыта, будуем новае.

**І. Дубок.**

1-я друкарня, Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Галоўлітбел № 302.